ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 21 (2423) 25 мая 1995 г. Выдаецца з 1955 г.
Цана 100 рублёў.

СЫНЫ Якуба КОЛАСА

## ЮРКА

Відаць, няма сумніву ў тым, што Якуб Колас ахрысціў сярэдняга сына ў гонар свайго дзеда Юркі. Усе імёны яго сыноў так або інакш звязаны з героямі роснай паэмы "Новая зямля", роднымі, землякамі паэта. І гэта хораша, бо ў чалавека высокай духоўнасці, шчырай павагі да сваіх каранёў мусіць быць тая повязь пакаленняў, любоў да зямлі, дзе радзіўся, узгадаваўся. Няма смачнейшай вадзіцы, як з роднай крыніцы.

Сыны Якуба Коласа нарадзіліся далёка ад роднага кута, але і сёння Даніла і Міхась лічаць нёманскія прасторы сваёй радзімай.

Па словах Міхася, ягоны брат Юрка з замілаваннем гаварыў сваім сябрам пра маляўнічыя пейзажы па-над Нёманам, пра грыбныя нерушы, што раслі па маладняку-хвойніку непадалёку ад славутай Альбуцi. Усё збіраўся сам пабыць на бацькоўскай радзіме, дзе дубы-асілкі Бервянецкага луга падпіраюць неба магутнымі, купчастымі верхавінамі... На той час мара была нязбыўнай. Бальшавікі валодалі ўсходняй часткай Беларусі, палякі -- заходняй. Таму граніцы былі на замку. Калі ж наша Бацькаўшчына ўся перайшла пад крыло Масквы, Юрку пасля заканчэння БДУ ў 1940 годзе прызвалі ў Чырвоную Армію, у конны артылерыйскі полк на Беласточчыне.

Праз год, як лепшага стралка Заходняй асобай ваеннай акругі, пасылаюць у Мінск на стралковыя спаборніцтвы.

Сярэдні сын Коласа тварам і ўсім аблiччам хутчэй нагадваў род Каменскіх, чым Міцкевічаў. Спартыўны, дынамічны, з усмешлівымі цёмна-карымі вачыма, з густым чубам, быў Юрка падобны да маці, але ў яго аблiччы штосьці згадвалася альбуцкае. Характар меў ад прыроды вясёлы, быў вельмі спагадлівым да чужой бяды і гора. Як прыгадваў Міхась:

-- Мог апошнюю кашулю аддаць, заступіцца за чалавека, тым больш за сяброў, якіх у яго хапала. Любіў выдумляць розныя небыліцы. І так захапляюча гаварыў, з такою шчырасцю, што немагчыма было не верыць яму.

Стройны і прыгожы Юрка не вельмі заглядаўся на дзяўчат, якія тайна ўздыхалі, марылі стаць яго сяброўкамі. З імі ён жартаваў ахвотна, менціў языком, гаварыў кампліменты, а да сэрца не дапускаў. Жыў вольнаю птушкаю, чытаў запоем, займаўся спортам. Бацька прывёз з Парыжа фотаапарат, Юрка хутка навучыўся і рабіў добрыя здымкі і навучыў меншага Міхася. Бадай, што ўсе блізкія і знаёмыя сям'і Коласа, сярод якіх было многа выдатных людзей, сталі аб'ектамі фатографаў, маладых "каласкоў", як іх любоўна называла жонка Янкі Купалы, цётка Уладзя.

У тое страшнае лета 1941 года Юрка, як ніколі, выдатна страляў, біў па мішэні без промаху, рыхтаваўся стаць майстрам спорту на стралковых спаборніцтвах. Пагода, нібы па заказу, выдалася ціхая і ясная. Высокім блакітным купалам звісала неба над мірным, зялёным Мінскам. Праменілі на сонцы дахі дамоў, пакрытых ацынкаванай бляхай. Салдат Юрка Міцкевіч радаваўся маладосці, амаль подбегам бег на Вайсковы завулак да сваіх родных.

У хаце Якуба Коласа панаваў святочны настрой. Яфрэйтара закідвалі пытаннямі, прасілі паўтарыць той ці іншы эпізод з салдацкага жыцця. Непаседлівы, шумлівы і гаваркі Юрка і братоў, і бацькоў задавальняў грунтоўнымі, крыху падсалоджанымі асабістым додумам, але шчырымі адказамі. Бацька нават за алоўак узяўся, каб нешта занатаваць, а маці з пяшчотай глядзела на хударлявага сына, падкладвала на талерку. У яе балела душа ад прадчування нейкай бяды.

У той чэрвеньскі дзень чорная вестка пастукала ў вокны мільёнаў людзей... Сыны дзядзькі Якуба: Даніла, Юрка, Міхась -- выкапалі траншэю каля хаты.

Прыгадвае Даніла: "22 і 23 чэрвеня вайсковая камендатура патрабавала, каб Юрка неадкладна вярнуўся ў сваю часць. Але ж гэтага немагчыма было здзейсніць. Днём 24 чэрвеня ён зноў ідзе ў камендатуру. Мы развіталіся з ім... назаўсёды".

Сям'я Якуба Коласа апынулася ў Ташкенце. Праходзілі тыдні, месяцы, а вестак ад Юркі не было -- не ведалі хатнія, што думаць, куды звярнуцца за парадай... Рознае прыходзіла ў галаву.

-- Бацька, каб неяк суцешыць боль, пачаў пісаць аповесць пра Юрку, -- успамінае Міхась.

Юрка таксама сумаваў па бацьках, братах, асабліва па Міхасю, з якім моцна сябраваў, усюды браў з сабою, вучыў таму, што ўмеў рабіць сам. Менавіта тое, што меншы брат стаў адмысловым фатографам, майстрам спорту СССР па стральбе, -- заслуга Юркі. Як стала пазней вядома, ён трапіў у 49-ты артылерыйскі полк, тут атрымаў першае баявое хрышчэнне, біў ворага, пра што расказваюць яго скупыя лісты да родных.

-- Ён прымаў удзел у абароне Смаленска, -- прыгадвае Даніла. -- Пасля здачы Смаленска іхні полк стаяў на ўскраіне горада Ярцава.

(Заканчэнне на 5-й стар.).



Паміж верхнім і ніжнім здымкамі адлегласць у часе -- менш тыдня. Майскім ясным, але халодным днём Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка пераехаў з Дома ўрада на плошчы Незалежнасці ў будынак былога ЦК КП Беларусі па вуліцы Карла Маркса. Цяпер тут месціцца рэзідэнцыя Прэзідэнта дзяржавы. Наваселле Прэзідэнт справіў пад бел-чырвона-белым сцягам. Але праз колькі дзён адбыўся гістарычны рэферэндум, на якім народ наш абраў новы, -- а хутчэй -- стары, крыху падпраўлены, -- сцяг чырвона-зялёнага колеру. Рэферэндум адбыўся 14 мая, а 16-га ў 16 гадзін 10 мінут на флагшток над рэзідэнцыяй Прэзідэнта быў узняты новы флаг.

Урачыстай цырымоніі з гэтай нагоды не было. Пры зняцці старога і пад'ёме новага флага прысутнічалі супрацоўнікі адміністрацыі Прэзідэнта.



*ПУНКТ ПОГЛЯДУ МІНІСТРА*



## ЗАГАДАМ МОЎНЫЯ ПРАБЛЕМЫ НЕ ВЫРАШЫШ

**Прафесар Васіль СТРАЖАЎ скончыў фізічны факультэт БДУ ў 1966 годзе. Ён спецыяліст у галіне тэарэтычнай фізікі.**

**У Міністэрстве адукацыі і навукі працуе шосты год. Тры гады быў намеснікам міністра і займаўся пытаннямі, звязанымі з вышэйшай школай і міжнароднымі зносінамі ў галіне адукацыі. Летась быў прызначаны міністрам адукацыі і навукі. Працягвае выкладаць -- 2 разы ў тыдзень чытае лекцыі ва універсітэце. Сёння ён наш субяседнік.**

*-- Васіль Іванавіч, у мяне складваецца ўражанне, што Міністэрства адукацыі апошнім часам апынулася нібы паміж двух агнёў. З аднаго боку -- Прэзідэнт, які дэманструе сваё стрыманае стаўленне да карыстання беларускай мовай. З другога -- частка грамадскасці, якая патрабуе ад міністэрства больш радыкальных захадаў у бок нацыянальнага ў адукацыі. Ці няма такога адчування ў міністра адукацыі?*

-- Я лічу, што дзеля разумення таго, што адбываецца ў адукацыі з беларускай мовай, трэба ўспомніць, у якім стане яна была 5 гадоў назад.

Тады відаць, што за апошнія 5 гадоў зроблены значны крок наперад. І справа тут не ў лічбах, хоць іх можна прыводзіць шмат. Галоўнае, што ў грамадстве змяніліся адносіны да беларускай мовы. Мне здаецца, людзі асэнсавалі, што калі мы ствараем незалежную дзяржаву і гаворым пра нацыянальную сістэму адукацыі, то зразумела, што паўсюль тут павінна прысутнічаць беларуская мова. Такога не было 5--6 гадоў таму. Гэта і ёсць галоўнае дасягненне. Менавіта пра яго трэба гаварыць сёння, а не толькі пра тое, колькі па Закону аб мовах павінна быць працэнтаў беларускіх школ і колькі ёсць.

Калі ж казаць пра Закон аб мовах, трэба падкрэсліць, што ён прымаўся, калі Беларусь не была суверэннай дзяржавай. Таму праз дзяржаўны статус беларускай мовы ішла абарона нацыянальных інтарэсаў Беларусі.

Тады лічылася, што выконваць Закон аб мовах трэба як мага хутчэй. Цяпер некалькі іншая сітуацыя. Я лічу, што ў вырашэнні праблемы беларускай мовы не варта ісці па шляху бальшавікоў. І тут нельга карыстацца прынцыпам: калі вораг не здаецца, яго знішчаюць.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*БЕЛАРУСЬ У ААН*

## РАСЦЕ АЎТАРЫТЭТ

**Падчас выбараў у функцыянальныя камітэты і камісіі Эканамічнага сацыяльнага савета ААН (ЭКАСАС) на яго сесіі, што адбылася ў Нью-Йорку, Рэспубліка Беларусь зноў абрана ў Камісію па сацыяльным развіцці. Членства рэспублікі ў міжнародным органе, у склад якога ўваходзяць 32 дзяржавы, у тым ліку 4 усходнееўрапейскія, дазваляе ёй браць актыўны ўдзел у прыняцці рашэнняў, што тычацца перспектыў і прыярытэтаў сацыяльна-эканамічнага развіцця ў свеце.**

**На гэтай жа сесіі ЭКАСАС Рэспубліка Беларусь стала членам яшчэ адной аўтарытэтнай камісіі Савета -- Камісіі па правах чалавека, у склад якой уваходзяць 53 дзяржавы.**

*БЕЛАРУСЬ — РАСІЯ*

## Б. ЕЛЬЦЫН ПРАПАНОЎВАЕ...

**Як стала вядома, Барыс Ельцын у час сустрэчы ў Крамлі з выканаўчым сакратаром СНД Іванам Каратчэням выказаў "станоўчыя адносіны" да вынікаў рэферэндуму ў Беларусі і прапанаваў падпісаць спецыяльны мемарандум аб супрацоўніцтве Расіі і Беларусі ў час сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў СНД у Мінску 26 мая.**

*ПАСЛЯ РЭФЕРЭНДУМУ*

## КАМЕНТАРЫІ ЦЭНТРВЫБАРКОМА

**Даючы ацэнку праведзеным 14 мая парламенцкім выбарам і рэферэндуму, старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў Аляксандр Абрамовіч сказаў, што галасаванне праходзіла арганізавана, пры палітычнай актыўнасці грамадзян, а таксама ў даволі дэмакратычных умовах, што будзе асновай для прызнання легітымнасці новага парламента. З 260 акруг выбары не адбыліся ў 27 акругах.**

**Паводле папярэдніх даных, з 64,5 працэнта прагаласаваўшых па рэспубліцы выбаршчыкаў 83,1 працэнта прагаласавалі "за" па першаму пытанню рэферэндуму, 75 -- за другое, 82,4 -- за трэцяе і 77,6 -- за чацвёртае. Як лічыць Аляксандр Абрамовіч, гэт... вынікі будуць нязначна адрозніваецца ад канчат... вых.**

**Па гораду Мінску ў другі тур выйшлі ў асноўным прадстаўнікі палітычных партый, у адрозненне ад перыферыі, дзе большасць кандыдатаў прадстаўляюць аграрыяў і медыцынскіх работнікаў.**

**На парламенцкіх выбарах 14 мая прысутнічала вялікая група назіральнікаў ад міжнародных ...ганізацый -- Парламенцкай асамблеі АБСЕ, Пар...менцкай асамблеі Савета Еўропы, Паўночнаатлантычнай асамблеі і Еўрапарламента. Замежныя эксперты ў асноўным станоўча ацанілі ўзровень дэмакратычнасці першага тура выбараў. У прыватнасці, назіральнікі ад Савета Еўропы, якія наведалі больш як 60 выбарчых участкаў у сталіцы і розных рэгіёнах, прыйшлі да высновы, што, нягледзячы на некаторыя парушэнні, у цэлым выбары можна лічыць "свабоднымі і дэмакратычнымі".**



**На адным з выбарчых участкаў Мінска.**

*ПРАПАГАНДЫСЦКІЯ БАЛВАНКІ*

## ХТО СЕЕ НЯНАВІСЦЬ

**За тыдзень да рэферэндуму і выбараў на Беларускім тэлебачанні быў двойчы паказаны фільм Юрыя Азаронка "Нянавісць", накіраваны цалкам супраць БНФ і нацыянальна-дэмакратычнай плыні Адраджэння. Зроблены наспех, ён у "лепшых" традыцыях камуністычнай прапаганды б'е проста ў лоб, палохаючы абывацеля нацыянал-фашызмам. "Па просьбах працоўных" гэты фільм быў прадэманстраваны паўторна.**

**Вось што адказалі на пытанне "горшая перадача тыдня" пастаяннай анкеты "Народнай газеты" рэжысёр, народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Міхаіл Пташук і народны мастак Беларусі Леанід Шчамялёў, якія аднеслі фільм да горшых перадач тыдня.**

**Міхаіл ПТАШУК: "Мне здаецца, што Прэзідэнт напярэдадні рэферэндуму не павінен быў паказваць гэты фільм... Фільм не стабілізуе грамадства, а расслойвае яго. Вельмі шкада, што ў стварэнні фільма прымаў удзел акцёр Гасцюхін, які здымаўся ў маіх фільмах. Не варта акцёру лезці ў палітычныя гульні..."**

**Леанід ШЧАМЯЛЁЎ: "Брудная фальсіфікацыя, фільм зроблены вельмі неаб'ектыўна і тэндэнцыйна. Можна выказваць розныя палітычныя погляды, але навошта ж так злосна!"**

*ДЫПЛАМАТЫЧНАЯ ХРОНІКА*

## М. ГРЫНЁЎ — ПАСОЛ У МАЛДОВЕ

**Прэзідэнт Рэспублікі Малдова Мірча Снегур прыняў вярыцельныя граматы ў Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Рэспублікі Беларусь у Малдове Мікалая Грынёва.**

**Мірча Снегур выказаў надзею, што ён будзе садзейнічаць умацаванню і паглыбленню ўзаемавыгадных адносін паміж дзяржавамі. Па словах прэзідэнта, Малдова і Беларусь прытрымліваюцца адзінай думкі адносна стварэння эканамічнага саюза дзяржаў -- членаў СНД, яны падтрымліваюць адзін аднаго ў рамках ААН і СБСЕ. Кіраўнік дзяржавы таксама пазітыўна ацаніў стан знешнеэканамічных адносін паміж краінамі, падкрэсліўшы, што ў мінулым годзе аб'ём гандлёвых аперацый паміж імі ацэнены ў 35 мільёнаў долараў.**

*ДАЎГІ НАШЫ*

## ШТО МЫ ВІНАВАТЫ

**Агульны доўг Беларусі за расійскі газ, паводле звестак на 12 мая, склаў 3 трыльёны 343 мільярды 224 мільёны беларускіх рублёў. Доўг за мазут -- 248 мільярдаў 10 мільёнаў рублёў. Запазычанасць беларускіх спажыўцоў за электраэнергію, якая паступае з Расіі, складае 380 мільярдаў 263 мільёны рублёў.**

**Зараз беларускія спажыўцы аплачваюць бягучыя пастаўкі расійскага газу прыкладна на ўзроўні 43 працэнтаў. У лютым гэтая лічба складала 92 працэнты. Пастаўкі электраэнергіі і мазуту аплачваюцца на ўзроўні 65 працэнтаў. Спецыялісты прагназіруюць, што становішча з аплатай паставак расійскіх энерганосьбітаў у бліжэйшы час не палепшыцца.**

*ВЫТВОРЧАСЦЬ*

## ПАДЗЕННЕ ПРАЦЯГВАЕЦЦА

**У навукова-даследчым эканамічным інстытуце Міністэрства эканомікі Рэспублікі Беларусь падведзены вынікі чарговага апытання 160 кіраўнікоў прадпрыемстваў Рэспублікі Беларусь, якія прадстаўляюць асноўныя галіны прамысловасці і формы ўласнасці.**

**Зніжэнне аб'ёму вытворчасці адзначана на 39 ...цэнтах даных прадпрыемстваў, рост -- на 19 працэнтах з іх. Выпуск прадукцыі знізіўся на 61 працэнце прадпрыемстваў. Сярод прычын узнікшага становішча многія кіраўнікі выдзялялі недахоп абаротных сродкаў, неплацяжы спажыўцоў, высокія цэны на сыравіну і матэрыялы, нізкі попыт на выпускаемую прадукцыю.**

*КРЫМІНАЛЬНАЯ СТАТЫСТЫКА*

## У КРЭДЫТНА-ФІНАНСАВЫМ БАЛОЦЕ

**У першым квартале гэтага года праваахоўнымі органамі рэспублікі выяўлена больш чым 6,5 тысячы злачынстваў у сферах эканомікі і фінансаў, што на 24,7 працэнта больш, чым у аналагічны перыяд мінулага года. Выяўлены 221 факт хабарніцтва, 34 парушэнні правілаў аб здзелках з каштоўнымі металамі і камянямі, 658 выпадкаў вырабу або збыту падробленых грошай або каштоўных папер, 112 парушэнняў устаноўленага парадку правядзення валютных аперацый і 588 фактаў спекуляцыі.**

**На думку спецыялістаў, сёння адной з найбольш крымінагенных становіцца крэдытна-фінансавая сфера, дзе за першы квартал было выяўлена 183 злачынствы. Па ўзбуджаных крымінальных справах выяўлена незаконнае атрыманне крэдытаў на суму 8 мільярдаў 299 мільёнаў рублёў, 60 тысяч нямецкіх марак і 73 тысячы долараў.**

*ЮБІЛЕІ*

## ТЭАТРУ ЧВЭРЦЬ СТАГОДДЗЯ

**Паважанаму і любімаму на Бабруйшчыне тэатру драмы і камедыі імя Дуніна-Марцінкевіча -- 25 гадоў. Пераадольваючы немалыя цяжкасці, уласцівыя сённяшнім дням, калектыў тэатра жыве і з поспехам працуе. У яго рэпертуары класічныя "Утаймаванне свавольніцы" Шэкспіра, "Жаніцьба Бальзамінава" Астроўскага, "Каханне пад вязамі" О'Ніла, а таксама шэраг сучасных п'ес, адрасаваных і юнаму, і даросламу гледачу.**

**У дні юбілею было нямала сказана пра спектаклі, пастаўленыя за гэтыя гады, пра першых акцёраў, якія прынеслі тэатру заслужаную славу.**

**Цяпер у тэатр прыйшла новая хваля маладых талентаў. Але, як і раней, ядром яго застаюцца прадстаўнікі старэйшага пакалення акцёраў: Ларыса Федчанка, Браніслаў Баеў, Юзэфа Саевіч, Святлана Пуховіч, Антаніна Бендава...**

*КЛОПАТ ХЛЕБАРОБАЎ*



**Новай і прыбытковай справай -- вырошчваннем цыбулі заняліся на племзаводзе "Бярозкі" Гомельскага раёна. Яе атрымліваюць у гаспадарцы дзвюх відаў -- рэпчатую і сеянку. Прадукцыя карыстаецца шырокім пакупніцкім попытам. Узяцца за гэтую галіну агародніцтва было няпроста. Неабходна было і сеялку спецыяльную набыць, і спецыялістаў-агароднікаў гэтага профілю знайсці. І хаця агародніцтвам у "Бярозках" займаюцца ўжо дзесяць гадоў, вырошчванне цыбулі патрабуе асаблівых ведаў і тэхналогіі.**

**У гэтым годзе, як гаворыць дырэктар гаспадаркі У. Яцэнка, ад рэалізацыі гатовай прадукцыі тут думаюць атрымаць добры прыбытак.**

**НА ЗДЫМКУ: за якасцю сяўбы цыбулі сочаць аграном-агароднік Святлана КУРЫЛЕНКА (справа), галоўны аграном гаспадаркі Мікалай КАВАЛЁЎ і дырэктар Уладзімір ЯЦЭНКА.**

*ЗНЕШНІ РЫНАК*

## ГАНДЛЮЕМ З ЦЭЛЫМ СВЕТАМ

**Згодна з данымі Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь, знешнегандлёвы абарот Беларусі з краінамі далёкага і блізкага замежжа ў студзені-лютым бягучага года склаў 9,7 трыльёна беларускіх рублёў (877,2 мільёна долараў). Абарот з краінамі СНД склаў 7 трыльёнаў рублёў (611,1 мільёна долараў ЗША), ці 71,9 працэнта ад агульнага аб'ёму знешняга гандлю.**

**Сальда знешняга гандлю -- станоўчае, у суме 208,1 мільярда рублёў (40,8 мільёна долараў ЗША). З краінамі СНД яно адмоўнае і складае 810,1 мільярда рублёў (75,1 мільёна долараў ЗША), з краінамі далёкага замежжа -- станоўчае, у суме 1 трыльён рублёў (115,9 мільёна долараў ЗША).**

*НАЗІРАЕЦЦА РОСТ...*

## ЦЭНЫ І ДАХОДЫ

**Уклады насельніцтва ва ўстановах Ашчаднага і камерцыйных банкаў краіны склалі на 1 красавіка 1995 года 806 мільярдаў рублёў супраць 277,4 мільярда рублёў на 1 студзеня бягучага года.**

**За сакавік было прыцягнута ва ўклады 228,8 мільярда рублёў, што на 4,6 працэнта больш, чым за люты. Цэны на спажывецкія тавары і паслугі ўзраслі за месяц на 20 працэнтаў, даходы насельніцтва -- на 16 працэнтаў.**

*ТРЫВОЖНА*

## ЛЫСЕЮЦЬ... ДЗЕЦІ

**Роўна праз год пасля аварыі на шклозаводзе ў Бярозаўцы Лідскага раёна, у час якой вялікая колькасць забруджанай свінцом, кадміем і ртуццю вады трапіла ў гарадскую сістэму водазабеспячэння, у дзяцей дашкольнага ўзросту пачалі выпадаць валасы.**

**У некалькіх выпадках выпадзенне валасоў прывяло да поўнага аблысення. Пасля стараннага абследавання дашкольнікаў у Гродне ўрачы выявілі больш чым у ста дзяцей з Бярозаўкі вялікую колькасць таксічных рэчываў у крыві і адставанне ў развіцці інтэлекту.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

У РАМКАХ праграмы беларуска-германскага Савета эканамічнага супрацоўніцтва будзе рэалізаваны сумесны праект, які прадугледжвае стварэнне ў горадзе Лідзе недзяржаўнай жыллёва-камунальнай арганізацыі па ўтрыманню і мадэрнізацыі жыллёвага фонду. Па нямецкаму "вобразу і падабенству" ў Лідзе плануецца стварыць самаакупнае прадпрыемства па ўтрыманню і рамонту жылля. Вялікую частку фінансавання праекта бярэ на сябе нямецкі бок.

ЧАРГОВЫМ спажыўцом прадукцыі Беларускага металургічнага завода ў Жлобіне сталі ЗША. Да гэтага прадпрыемства экспартавала свае вырабы ў больш чым 20 краін далёкага замежжа.

Амерыканскіх прамыслоўцаў зацікавіў беларускі металакорд, які за акіянам выкарыстоўваюць для шын вядомых легкавых аўтамабіляў "Форд".

ВОДГУЛЛЕ

# ПРА ШТО РАСКАЗВАЮЦЬ ДАКУМЕНТЫ

**Матэрыялы публікацыі газеты "Голас Радзімы" "Пра што расказваюць дакументы" адкрываюць свайму чытачу магчымасць дакрануцца да гісторыі Вялікай Айчыннай вайны не праз светаўспрыманне яе інтэрпрэтатараў, а сваім духоўным адчуваннем. Гэта якраз той шлях, на якім мінулае нашага народа можа прадстаць сёння ў сваім шматгранным абліччы, а кожны з нас знайсці тое звяно ў ланцугу гістарычных падзей, якое звычайна ў адпаведнасці з асаблівасцямі чалавечай псіхалогіі пры адсутнасці ведаў аб фактах замяняецца эмацыянальнымі ўяўленнямі аб ім.**

**Гэтыя матэрыялы -- сведчанні многіх эпізодаў вайны, якія яшчэ доўгі час будуць заставацца абязлічанай паперай. У іх жа -- летапіс нашага жыцця, нашай сілы і нашых паражэнняў. За імі -- прагнучыя справядлівасці галасы людзей, якія самі адстаяць яе ўжо не змогуць. І я лічу патрэбным працягнуць такога плана публікацыі. Можна захаваць іх як асобную рубрыку пад удала знойдзенай назвай. Як працяг -- прапаную ўвазе чытачоў яшчэ адзін дакумент з Цэнтральнага архіва пагранічных войскаў былога Саюза. Ён аднаўляе падзеі Вялікай Айчыннай вайны ў яе пачатку.**

**Людміла МАЛЕНКА.**

**ВЫПІСКА**

*са справы N 5 "Гістарычны фармуляр 16-га пагранічнага палка войск НКУС па ОТ ДКА, перайменаваны ў 16-ты стралковы полк УВ МУС. 1923--1946 гг. (Папярэднікі: 7-мы асобны пагранбатальён, 13-ты асобны пагранбатальён, 16-ты Кайданаўскі пагранатрад, 16-ты Дзяржынскі пагранатрад).*

*Стар. 26*

## II. СЛУЖБА І ЎДЗЕЛ У ПАХОДАХ І БАЯХ

Ваенныя дзеянні на ўчастку атрада пачаліся 23 чэрвеня 1941 года. У 0.25 погранзастава N 12 (Коласава) падверглася бамбардзіроўцы з паветра, ахвяр не было. 23.6.41 года на ўчастку атрада з'явіліся першыя наземныя часці немцаў.

З пачаткам ваенных дзеянняў атрад перайшоў на ўзмоцненую ахову мяжы, з задачай забяспечваць адыход часцей Чырвонай Арміі, а з апошнімі адыходзячымі часцямі РККА — адыходзіць з боем.

24.6.41 г. 1-я камендатура і 5-я застава 2-й камендатуры адышлі з лініі мяжы і злучыліся з асабовым саставам склада N 11 м. Заслаўе, арганізаваўшы сумесную абарону склада. Асабовым саставам атрада пры складзе камандаваў начальнік заставы -- лейтэнант Трэгубаў.

25.6.41 г. да склада N 11 падышлі часці праціўніка, з якімі ахова склада ўступіла ў бой. Адбіваючы неаднаразовыя атакі і наносячы праціўніку вялікія страты, асабовы састаў трымаў абарону па 28.6.41 г., пасля чаго пад націскам перавышаючых сіл пачалі адыходзіць па маршруту Заслаўе -- Мінск.

Па шляху адыходу 1-я камендатура і 5-я застава далучыліся да атрада ў раёнах Магілёў -- Смаленск.

У выніку баёў атрад панёс страты: забіта -- 4 чалавекі, у тым ліку начальнік заставы лейтэнант Трэгубаў, і ранена 2 чалавекі. У баі байцы і камандзіры праявілі мужнасць і адвагу.

**Выпіска са Справы N 5, П-158, інв. 1586, л. 26**

**"Правільна"**
**Старшы навуковы супрацоўнік Цэнтральнага музея Пагранічных войск Расійскай Федэрацыі**

**[В. БАЛЬЕЎ].**

**ВЫПІСКА**

*са справы N 11 "Матэрыялы па гісторыі 16-га Дзяржынскага пагранпалка Заходняга фронту. 1941 год. (Папярэднікі: 13-ты пагранполк, 16-ты Кайданаўскі пагранполк, 16-ты Дзяржынскі пагранатрад)."*

*Стар. 7*

## ЗАСТАВА СУПРАЦЬ ПАЛКА

Асаблівую стойкасць у абароне праявіла 5-я застава лейтэнанта Трэгубава.

Супраць яе наступала каля палка немцаў. Былі яны п'яныя, ішлі, не згінаючыся і не маскіруючыся, бравіруючы сваёй "ліхасцю".

Мост праз раку быў узарваны апоўдні, калі начальніку заставы стала ясна, што пачалася вайна. Немцы кінуліся ўброд. Тады вада ў рацэ зрабілася брудна-чырвонай ад іх крыві. На подступах да заставы, ля воднага рубяжа немцы палажылі ўвесь свой першы батальён. Услед за тым, з барановай упартасцю яны кінулі другі батальён. У той дзень пачаў весці свой рахунак помсты камсамолец Васіль Дземчанка. Ён паказаў, якім грозным можа быць ва ўмелых руках кулямёт, верная зброя пагранічніка. Пара ўзнімалася над гарачым кожухам. Груды фашысцкіх трупаў валяліся на беразе.

**[Заканчэнне на 4-й стар.].**

# ЗАГАДАМ МОЎНЫЯ ПРАБЛЕМЫ НЕ ВЫРАШЫШ

**[Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.].**

Ворагаў тут няма. Мне здаецца, што галоўная памылка прыхільнікаў беларускай мовы ў тым, што яны лічаць ворагамі тых, хто не падзяляе ўсе іх пазіцыі. Калі ісці па такому шляху, вынік будзе дрэнным.

*-- Вы атрымалі партфель міністра з прыходам да ўлады Аляксандра Лукашэнкі. Можна меркаваць, што вы яго чалавек?*

-- Калі мяне Прэзідэнт прызначыў на гэтую пасаду, значыць, я чалавек Прэзідэнта.

*-- Тады лагічна лічыць, што гэта прымушае вас азірацца на пазіцыю Прэзідэнта, у тым ліку па пытаннях, звязаных з нацыянальным у адукацыі. Ці можаце вы сказаць, што ваша пазіцыя незалежная ад поглядаў Прззідэнта?*

— Я пачну адказ на ваша пытанне з наступнай думкі. Мабыць, у галіне культуры сапраўды галоўная задача сёння -- гэта адраджэнне беларускай мовы. У сферы адукацыі гэта таксама адна з галоўных мэтаў, плюс стварэнне нацыянальнай сістэмы адукацыі. Але трэба ўлічваць, што ў Прэзідэнта, які стаіць на чале дзяржавы, ёсць шмат і іншых задач. Прэзідэнт вымушаны ўлічваць запыты, якія аб'ектыўна існуюць у грамадстве. І мне здаецца, што ён мае падставы ставіць перад грамадствам пытанне аб статусе рускай мовы. Што тычыцца мяне, я не адчуваю ўціску з боку Прэзідэнта ў выглядзе загадаў ці распараджэнняў, накіраваных супраць распаўсюджвання беларускай мовы ў сістэме адукацыі.

*-- Калісьці вы казалі, што дзеці, якія сёння надаюць мала ўвагі беларускай мове, будуць мець менш шанцаў на добрую кар'еру ў будучыні...*

-- Я лічу, што ёсць няшмат бацькоў, якія не жадалі б, каб іхнія дзеці вывучалі беларускую мову. І я на самай справе перакананы, што ў будучыні наша школа і павінна быць, і будзе беларускамоўнай.

Аднак пакуль большасць людзей у побыце размаўляе на рускай мове. І існуе шмат людзей, якія лічаць, што іхнія дзеці павінны пачаць адукацыю на рускай мове. Калі ў нас ёсць пачатковая польская школа, то можа існаваць і руская. Але трэба ўлічыць, што тое будзе беларуска-руская пачатковая школа. Пасля ж яе мы, як мне здаецца, павінны даць усім вучням беларускамоўную адукацыю. Тыя, хто ў пачатковай школе больш вывучаў рускую мову, будуць больш вывучаць беларускую ў старшых класах. Усё гэта канчаткова вырашыцца з часам. На сённяшні дзень мы толькі падышлі да распрацоўкі гэтых мадэляў. Галоўнае, у чым мы ўпэўніліся за апошнія 5 гадоў, што толькі праз загад, толькі праз націск моўныя праблемы не вырашыш. Я мару аб тым, каб гэтая далікатная праблема не вырашалася на мітынгах альбо толькі з дапамогай людзей, якія з праціеглымі лозунгамі стаяць на прыступках Міністэрства адукацыі. Не так вырашаецца гэтая праблема. Мабыць, нехта скажа: "Каб такое заяўляць, трэба быць перакананым, што мы ідзем наперад да нацыянальнага ў адукацыі". Але я ў гэтым сапраўды ўпэўнены.

*-- Калі вынік галасавання на рэферэндуме надасць афіцыйны статус рускай мове, што, на ваш погляд, будзе з беларускай мовай у сістэме адукацыі?*

-- Калі руская мова будзе мець афіцыйны статус, складуцца абставіны, калі можна і трэба будзе больш намаганняў аддаць распаўсюджванню беларускай мовы. Трэба стварыць умовы, пры якіх руская і беларуская мовы не будуць спаборнічаць паміж сабой. Я не ведаю, якое месца зойме беларуская мова ў дакладнай навуцы, г.зн. якая частка навуковых прац будзе пісацца на беларускай мове. Аднак месца беларускай мовы ў вышэйшых навучальных установах павінна быць вызначана. Яшчэ некалькі гадоў таму я прапанаваў стварыць дзве плыні ў ВНУ, адна з якіх працавала б на рускай, другая -- на беларускай мове. З цягам часу я ўпэўніўся, што меў рацыю. Тады мне адказвалі, што міністэрства зможа хутка стварыць сістэму беларускамоўных ВНУ. Аднак такога не здарылася, як мы бачым. І на гэта ёсць і былі аб'ектыўныя прычыны.

*-- Мне здаецца, што распаўсюджванне беларускай мовы яшчэ і таму не пашыраецца, што ў грамадстве не створаны ўмовы, пры якіх авалоданне беларускай мовай стала б неабходным і абавязковым для кожнага.*

— Я згодны з вамі. І не апошняе месца займае блізкасць абедзвюх моў. Сапраўды, існуе вялікая колькасць беларусаў, якія не карыстаюцца беларускай мовай не таму, што супраць яе, а таму што не прывыклі да карыстання ёю. Колькі ёсць прыкладаў сярод інтэлігенцыі, калі людзі прыязджалі з вёсак у сталічныя ВНУ і былі вымушаны ў свой час перавучвацца з беларускай на рускую мову. Цяпер жа перад імі стаіць адваротная задача -- перавучвацца на беларускую мову.

Я лічу, што толькі праз школу, паступова можна стварыць такія ўмовы, калі авалоданне беларускай мовай стане неабходнай умовай, пры якой чалавек зможа лічыць сябе грамадзянінам Беларусі.

Я разумею, што, калі выкладчык фізікі пачынае выкладаць на беларускай мове, якасць навучання толькі ад гэтага не паляпшаецца, а яму трэба пераступіць праз сур'ёзны псіхалагічны бар'ер. Ды яшчэ няма навуковай літаратуры на беларускай мове. Каб пачаць якасна выкладаць на беларускай мове, чалавек павінен прыкласці шмат намаганняў. Аднак ён пакуль не ўпэўнены, што некаму гэта сапраўды патрэбна. Праўда, ёсць людзі, якія, нягледзячы ні на што, чытаюць лекцыі на беларускай мове. У любым выпадку да чалавека нельга падыходзіць як да машыны.

*-- Васіль Іванавіч, што вы скажаце наконт заявы 25 партый і грамадскіх арганізацый у Канстытуцыйны суд, у якой падкрэсліваецца, што 13 тысяч вучняў, якія сёлета заканчваюць беларускія школы, не будуць мець магчымасці атрымаць вышэйшую адукацыю на беларускай мове. Гэта парушае іх грамадзянскія правы.*

-- Я не буду каменціраваць. Хай Канстытуцыйны суд вырашае гэтую праблему.

*-- Можа тады вы пракаменціруеце сітуацыю, што склалася з беларускай мовай у Беларускім дзяржаўным універсітэце?*

-- Мне здаецца, што БДУ мог бы пайсці спачатку па шляху двухмоўя. Ёсць прапанова перавесці з 1 верасня ўсё навучанне ў БДУ на беларускую мову. Можна выдаць такі загад, але ці будзе ён выконвацца? Калі ж на кожным факультэце ў БДУ будуць створаны дзве моўныя плыні, пытанне, з якім частка грамадскасці звярнулася да Канстытуцыйнага суда, знімецца.

*-- Спадар міністр, мне здаецца, што нават з 1 верасня немагчыма стварыць беларускамоўныя аддзяленні, таму што выкладчыцкія кадры да гэтага не падрыхтаваны, не існуе падручнікаў на беларускай мове.*

-- Навучальных дапаможнікаў ва ўсіх ВНУ яшчэ доўгі час будзе не хапаць, бо яны каштуюць вельмі дорага. Міністэрства не ў стане цяпер друкаваць неабходную колькасць падручнікаў. Аднак мы збіраемся стварыць раду па падрыхтоўцы нацыянальных падручнікаў пры Міністэрстве адукацыі і навукі. Што ж тычыцца выкладчыкаў, якія могуць выкладаць на беларускай мове, то іх сапраўды няшмат. Аднак яны ёсць, і чытаць лекцыі на беларускай мове будзе каму.

**Гутарыла Алена СПАСЮК.**

ПІСЬМЫ НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ

# НЕ ВЕДАЕМ СВАЁЙ МОВЫ

Яшчэ хлопчыкам, калі я хадзіў у школу ў сваіх родных Калінкавічах, мяне турбавала пытанне: чаму гэта шыльды ў маім горадзе не пішуцца беларускаю моваю, хаця нас вучылі, што ўсе мы роўныя і вольныя, у тым ліку і наша мова. А сваю мову я палюбіў з дзяцінства, бо пачуў яе ад маці, дзядоў і бабуль, вучыўся тады я ў беларускай школе. Сярод некалькіх школ у горадзе адна была беларуская.

Пазней, у пяцідзесятыя гады, і яе закрылі. Усё гэта рабілася "по просьбе трудящихся". Нягледзячы на тое, што трывалы час жыву за межамі Беларусі, не забываю сваю родную мову, а калі прыязджаю на Бацькаўшчыну, прыглядаюся больш уважна, як жывецца маёй мове зараз у сябе дома, бо з'явіўся закон пра мовы, яна стала дзяржаўнаю, а Беларусь -- незалежнаю дзяржаваю. Апошні раз быў у Беларусі тры гады назад. Памятаю, перад ад'ездам на Украіну ў Мінску завітаў ва універмаг "Беларусь". Праўда, купляць нічога не збіраўся, проста так паглядзець, што ёсць, чым гандлююць, бо рускіх рублёў у нас няма, а ў кішэні ляжалі ўкраінскія купоны, абмяняць тады на беларускія "зайчыкі" было немагчыма. Колькі яшчэ непарадку на шляху нашай незалежнасці! А з дынаміка гучала родная мова. Такая чыстая-чыстая, нібы вада з крыніцы, і мне падумалася: жыве наша мова, адраджаецца, устае спачатку з кален, а потым ва ўвесь рост, як чалавек пасля трывалай і цяжкай хваробы. А мы, яе нашчадкі, павінны памятаць, што ёсць ісціна: няма мовы -- няма народа.

Але сёння на гэтым кропку ставіць яшчэ рана. За межамі нашай Бацькаўшчыны, Беларусі, ва ўсім свеце жыве каля трох мільёнаў беларусаў, найбольш з іх жывуць у блізкім зарубежжы, краінах СНД, і многія з іх уважна сочаць за тым, што адбываецца на іх маці-Радзіме, адкуль ідуць іх карані. Для іх неабыякава, што адбываецца сёння там, у тым ліку і з моваю.

Нельга не заўважыць, што некалькі пакаленняў вырасла ва ўмовах непрэстыжнасці беларускай мовы і нямала ёсць тых, хто не ведае яе арганічнай паўнацэннасці і красы. Таму тыя, што сёння ва ўладзе, робяць рэферэндум, якая мова лепшая ў Беларусі, добра ведаюць, што руская. Чаму? Таму што сваёй роднай не ведаем.

Відаць, яны хочуць беларускай мове вярнуць стары лёс -- быць другараднай, быць у абдымках "старшего брата". Павага да мовы -- павага да народа. Хаця я ўжо не той хлопчык, што хадзіў у школу, а пенсіянер, просты беларус, мяне, як і многіх маіх землякоў, хвалююць пытанні, чаму гэта ў нашай незалежнай Беларусі яшчэ і зараз не ўсюды ёсць беларускія школы, чаму адзіная на беларускую вёску газета "Наша ніва" не выходзіць на беларускай мове (прашу прабачэння, можа, што ўжо змянілася за гэты час? Толькі штось не верыцца) і, нарэшцэ, чаму гэта беларус у сябе дома не можа атрымаць вышэйшую адукацыю на роднай мове? А мы ж, беларусы, як пісаў наш Янка Купала, вартыя таго, каб людзьмі звацца.

**Фёдар СЕВЯРЫН.**

Данецк, Украіна.

**ПАМЯЦІ Міхася ЗУЯ**

# АПАДАЮЦЬ, ЯК ЛІСЦЕЙКА З ДРЭВАЎ...

Ізноў з беларускага замежжа, на гэты раз з далёкай Аўстраліі, прыляцела па факсу жалобная вестка: пасля цяжкай і працяглай хваробы на вечны спакой адышоў прэзідэнт Беларускай Цэнтральнай Рады Міхась Зуй. Гэтае імя, бадай, вядома кожнаму беларусу на эміграцыі, шмат каму і тут, на Бацькаўшчыне. І не толькі дзякуючы віднай пасадзе. Гэта быў чалавек надзвычай энергічны, ініцыятыўны, апантаны ідэяй служэння беларускай справе, Адраджэння і ўзвелічэння роднага народа.

Воблік гэтага чалавека ў маім уяўленні склаўся ўпершыню са слоў такога ж беларускага ўтрапёнца, палкоўніка ў адстаўцы Антона Сабалеўскага, які ўсё свядомае жыццё пражыў за межамі Беларусі, а цяпер у Маскве. Згадваў Антон Аляксандравіч сваё ваеннае юнацтва, калі ён упершыню ў Глыбокім на рынкавым пляцы пачуў надзвычай палкае і прачулае выступленне Міхася Зуя ў абарону Беларусі, яе годнасці і славы, мовы і культуры. Пачутае запала ў душу назаўжды, і ў тым, што Сабалеўскі, пражыўшы жыццё па-за Бацькаўшчынай, застаўся ёй верным ва ўсім, да канца, ці не заслуга і той выпадковай сустрэчы...

Адштурхоўваючыся ад гэтага, усяго толькі прыватнага факта, можна павесці значна шырэйшую гаворку пра становішча і ролю беларускай адміністрацыі на акупаванай немцамі тэрыторыі, пра што ў нас да нядаўняга часу ці зусім не згадвалася, ці гаварылася спрэс у адмоўным плане: маўляў, усе, хто супрацоўнічаў з немцамі, былі ворагамі свайго народа, здраднікамі, калабарацыяністамі. Але дастаткова хоць бегам зірнуць на гісторыю войнаў і акупацый, як мы ўбачым, што ніколі і нідзе не было такога, каб усе, ад старога да малога, станавіліся пад ружжо і змагаліся з ворагам. Такое проста немагчыма, бо да збройнага змагання здатная толькі пэўная частка народа, а асноўнай яго масе трэба перажыць акупацыю і выжыць дзеля будучыні. У гэтым сэнсе Беларусь не складала выключэння. І не толькі ў апошнюю вайну, але і ў папярэднія. Люд, які заставаўся пад акупацыяй, вымушаны быў, хочучы ці не хочучы, а кантактаваць з ворагам, выконваць яго распараджэнні і загады. Патрэбны быў і нейкі перадатачны механізм, які б забяспечваў пэўнае ўзаемаразуменне паміж прышэльцамі і тутэйшым насельніцтвам. Ролю такога механізма ў пэўнай ступені адыгрывала беларуская адміністрацыя.

Чую голас непрыхільнікаў: хай бы яе лепш не было! Адказваю: не магло не быць, бо гэта агульная заканамернасць, агульная логіка для ўсіх народаў і дзяржаў. Але калі нават чыста тэарэтычна дапусціць, што Беларусь здолела б тут паказаць нейкае адметнае выключэнне, дык наўрад ці пайшло б яно на карысць. Бо ў такім выпадку давялося б мець справу нібы паміж глуханямымі прадстаўнікамі дзвюх варожых сілаў, адна з якіх павінна была б усляпую падпарадкоўвацца другой, а тая, валодаючы ўладай і зброяй, жорстка карала б за ўсякае непаслушэнства, за любое невыкананне загадаў акупацыйных уладаў. Непаслушэнствы і невыкананні, напэўна, былі б не толькі сапраўдныя, але і яшчэ больш уяўныя з улікам вымушанага сужыцця дзвюх "глуханямых" варожых сілаў. Тутэйшая нацыянальная адміністрацыя, хоць і была пад каўпаком у немцаў, якраз і дапамагала гэтаму вымушанаму сужыццю, пэўнаму ўзаемаразуменню. Роля яе пры гэтым была ў асноўным трагічнай. Вядомы сотні выпадкаў, калі так званыя "ворагі народа" якраз і паклалі свае галовы за гэты самы народ, палеглі ад рук карных органаў акупацыйнай улады. Такіх людзей, мяркую, будзе значна больш, чым сярод прадстаўнікоў улады савецкай, якія свядома абаранялі несправядліва абвінавачаных, папярэджвалі іх ці хавалі ад расстрэлаў...

Асабіста я не магу ўявіць, як можна было б людзям пражыць чатыры з гакам гады акупацыі, калі б у цэнтральнай і мясцовай адміністрацыі былі толькі акупанты, якія не ведалі мовы тутэйшага насельніцтва, тым больш -- традыцый, звычаяў, псіхалогіі і г.д. І ніякія перакладчыкі тут не далі б рады.

Безумоўна, у беларускай адміністрацыі, як, дарэчы, і ў партызанах, былі ўсякія людзі: адны абаранялі, іншыя -- рабавалі і багацелі на чужым горы, паказвалі, маючы зброю ў руках, сваю ўладу і права над мірным безабаронным людам...

Я тут мог бы прывесці шмат пачутых ад самога сп. Зуя пераканаўчых выпадкаў, якія сведчаць, як ён дапамагаў людзям у бядзе. Але рабіць гэтага не буду, бо, каб асэнсаваць ролю асобы ў тых трагічных падзеях, трэба мець сведчанні і шырэйшага кола людзей, якія, зусім верагодна, будуць мець іншы погляд на той час і ролю ў ім канкрэтных асобаў.

Я ж паспрабую ўзнавіць у агульных абрысах свае ўражанні ад сустрэчы са сп. Зуем у чэрвені 1992 года, падчас маёй вандроўкі ў Аўстралію напярэдадні Першага з'езда беларусаў свету, байкатаваць які, як вядома, заклікаў БНФ і іншыя, блізкія ці залежныя ад яго палітычныя сілы. З улікам гэтага стаўленне да мяне суродзічаў напачатку было досыць насцярожанае. Але толькі напачатку. Бо варта было сустрэцца, пагаварыць з асобнымі людзьмі, выступіць перад шырэйшай грамадой у царкоўных залях, як сэрцы беларусаў адразу цяплелі, лёд непаразумення раставаў і рашучы заклік байкатаваць першы ўсебеларускі форум успрымаўся нейкай незразумелай, нават абсурднай недарэчнасцю, невядома кім і дзеля чаго інспіраванай!..

З найбольшым хваляваннем чакаў я сустрэчы з Прэзідэнтам БЦР, ведаючы, што сябры і прыхільнікі гэтай арганізацыі вызначаюцца найбольшай рашучасцю і бескампраміснасцю. Ведаў і пра тое, што сп. Зуй некалькі месяцаў назад трапіў у аўтамабільную катастрофу і, пакалечаны, працяглы час праляжаў у лякарні. Аса[illegible] ўразіў аповяд старшыні бела[illegible]кага клуба ў Сіднеі Міхася Лужынскага, калі ён першы раз наведаў пацярпелага. Увесь быў у бінтах, тулава на ложку, а ногі і рукі, быццам не ягоныя, віселі падвешанымі да адмысловых прыстасаванняў. Нізавошта б не пазнаў сябра, калі б не яг[illegible] вочы, дзёрзкія, апантаныя, што [illegible]згаслі ў выпрабаванні, а свяціліся, агнём гарэлі, не здаваліся, змагаліся за жыццё...

І вось гэты чалавек, якому ўжо было пад восемдзесят, прыехаў у царкву на ўласным лімузіне. Яму было нялёгка ступіць на зямлю, ісці па ёй, але ён не дазваляў ніякай дапамогі. Мы пазнаёміліся, разгаварыліся. І мяне таксама захапіла ягоная апантанасць, ягоная любоў і вера ў Беларусь. Такая вера і заўзятасць у сцвярджэнні сваёй пазіцыі, сваіх поглядаў, сваёй праваты з вядомых мне людзей была ўласцівая хіба што Ларысе Геніюш...

А назаўтра я са сваімі мілымі харошымі сябрамі -- архітэктарам Міколам Сазановічам і ягонай жонкай Марысяй -- паехаў у госці да спадарства Зуяў. Гаспадыня аказалася супрацьлегласцю гаспадару: спакойнай, памяркоўнай, клапатлівай. Іншая, мабыць, з такім чалавекам, як Міхась Зуй, і не ўжылася б. Ён жа, як і ўчора ля царквы, і, бадай, заўсёды, быў усё такім жа -- бескампрамісным і непрымірымым: толькі незалежная, без расейскага і камуністычнага прымусу, вольная Беларусь здолее здабыць сабе шчасце; толькі беларусы павінны быць гаспадарамі на ўласнай зямлі, а іх мова і культура вартыя таго, каб быць не парабчанкамі, а панямі ў роднай старонцы...

Міхась Зуй быў чалавекам няпростым, як няпростай і не гладкай, а ўхабістай, з калдобінамі і патырчакамі была яго жыццёвая дарога. Вельмі цікавым уяўляецца таксама той перыяд, калі сп. Зуй адным з першых трапіў у далёкую Аўстралію і пачаў закладваць там падваліны беларускасці, якою датуль амаль і не пахла: эмігранты, якія траплялі сюды яшчэ ў царскі, а потым у міжваенны час, проста раствараліся ў польскіх, расейскіх ці іншых славянскіх асяродках альбо жылі адзінцом, спакваля забываючы сваё, роднае. Сёння ж беларускія зямляцтвы ў Аўстраліі (Сіднеі, Мельбурн, Адэлаіда, Пэрт) адны з самых моцных у далёкім замежжы. На жаль, няўмольна адыходзяць тыя, хто нястомна мацаваў беларускасць сярод беларусаў. Нядаўна суродзічы правялі ў апошні шлях Уладзіміра Шнэка, крыху раней -- Янку Ролсана, а цяпер вось і Міхася Зуя.

Вечная памяць вам, шчырыя рупліўцы на сталочанай чужацкімі капытамі ніве беларускага Адраджэння!

**Яўген ЛЕЦКА.**



Карункі над Сожам.

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

# ПРА ШТО РАСКАЗВАЮЦЬ ДАКУМЕНТЫ

**(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).**

Таварышы па заставе ў адзін з кароткіх момантаў перадышкі палпаўзлі да ракі, сталі лічыць трупы. "Не[illegible]ш ста палажыў Дземчанка", -- да[illegible]кылі яны камандзіру.

Дванаццаць гадзін трымала націск немцаў гераічная 5-я застава, і толькі на зыходзе дня лейтэнант Трэгубаў атрымаў дазвол адыходзіць да За[illegible]ўя.

## АБАРОНА СКЛАДА

...Ноч мінула спакойна, а раніцай 27-га чэрвеня падышла 5-я застава лейтэнанта Трэгубава, які прыняў агульнае камандаванне. Цяпер гарнізон гэтага імправізаванага вузла супраціўлення складаўся з 79 пагранічнікаў. Разам з імі змагаліся таксама тры зброевыя майстры са склада -- астатнія былі заняты эвакуацыяй.

Каб забяспечыць спакойную перавозку боепрыпасаў і ўмацаваць свой левы фланг, лейтэнант Трэгубаў накіраваў у бок бальшака групу пад камандаваннем малодшага лейтэнанта Скурыхіна. Непасрэдна ля склада засталося трыццаць чалавек пры двух станковых і шасці ручных кулямётах.

Неўзабаве пагранічнікі ўбачылі, як у прадмесце Заслаўя ўвайшла калона веласіпедыстаў, іх налічылі каля 300. Прайшло паўтары пакутлівыя гадзіны, і штурм пачаўся. Нямецкія аўтаматчыкі, пакінуўшы веласіпеды, папаўзлі па траве да склада. На дыстанцыі 400 метраў лейтэнант Трэгубаў загадаў адкрыць агонь. Аўтаматчыкі рванулія ў атаку.

## З ІМЕМ СТАЛІНА Ў КОНТРАТАКУ

Трэгубаў звярнуўся да байцоў, якія сціскалі вінтоўкі, падняў гранату, крыкнуў: "За Радзіму! За Сталіна, таварышы!". Стары баявы кліч, ён гучаў на Хасане, і ў Карэльскіх лясах, і на беразе Збруча і Буга. Усяго два словы -- Радзіма, Сталін, а якую буру пачуццяў узнімаюць яны заўсёды ў грудзях савецкага патрыёта перад атакай. Радзіма -- там за спіной, нічога больш няма паміж ёю і ворагам, толькі ты, твае рукі, твой штык. Ты перашкода ворагу...

...І такім грамавым быў кліч: "За Радзіму, за Сталіна!", з такой імклівасцю кінуліся пагранічнікі з акопаў у штыкі, што нямецкая пяхота адступіла, не прыняўшы ўдару. Яны штыкамі гналі ворага. Калі на выручку пяхоце прыляцела два бамбардзіроўшчыкі, пагранічнікам давялося залегчы.

На полі бою было так цесна, пагранічнікі ў сваім наступальным парыве так блізка падышлі да праціўніка, што нямецкім самалётам не было дзе разварнуцца. Яны не рызыкнулі бамбіць, баючыся трапіць у сваіх, і абмежаваліся дзвюма кулямётнымі чэргамі.

Штурм сарваны, немцы вярнуліся ў Заслаўе. Неўзабаве пагранічнікі са здзіўленнем убачылі, што калона нямецкіх танкаў, абыходзячы склад, рушыла па шашы на Мінск. Праз правільныя інтэрвалы за імі пацягнуліся матацыклісты і веласіпедысты. Гэта было для пагранічнікаў новым у тактыцы ворага, -- наткнуўшыся дзе-небудзь на адпор, абыходзіць, абцякаць перашкоду.

## ДРУГІ ШТУРМ

...Вечарам дзесяць фашысцкіх танкаў і звыш 150 пехацінцаў рушылі з боку горада на новы штурм. Да таго часу да пагранічнікаў аднекуль падышла гармата, з якой былі капітан і два малодшыя камандзіры. Гармата біла без промаху: за паўтары гадзіны прамой наводкай капітан паразіў 8 фашысцкіх танкаў. Штурм пасля гэтага выдахся. Сказалася аднабаковасць нямецкай пяхоты, якую трэніравалі на атаках толькі з танкамі, прывучалі атакаваць толькі пад прыкрыццём іх брані.

Не здолеўшы ўзяць склад франтальным ударам, немцы пачалі сцягваць вакол склада кальцо. У змроку пачаўся жорсткі артылерыйскі абстрэл, падрыхтоўка да трэцяга штурму. На працягу некалькіх гадзін фашысцкія гарматы без перадышкі малацілі па апушцы лесу, дзе заляглі пагранічнікі. Але адыходзіць было рана: боепрыпасы працягвалі вывозіць па прасёлачных дарогах, пакуль свабоднай ад немцаў прасторы, што звужалася.

Урон ад артылерыйскага абстрэлу быў вельмі вялікі. Снарадам разнесла шчыт пушкі і забіла баявога сябра пагранічнікаў капітана-артылерыста. (Ён так і застаўся для нас безыменным героем вайны, таму што ў ходзе бою пагранічнікі не паспелі даведацца яго прозвішча).

Другім снарадам быў забіты лейтэнант Трэгубаў. Яго беражліва падхапіў на рукі, падбегшы, Дзячэнка. Камандаванне прыняў палітрук заставы малодшы палітрук Агафонаў.

**Выпіска са справы N 11, П-123, інв. N 1317, л.л. 7--12**

**"Правільна" -- ст. навуковы супрацоўнік (В.БАЛЬЕЎ).**

# МАЕ ДЗЯДЫ І РАДАЎНІЦЫ

... Усё яшчэ блукаю па колішніх Вайсковых могілках, праціскаюся паміж заіржавелых і свежапафарбаваных агароджаў, абыходжу заімшэлыя і дагледжаныя помнікі. Месцамі немагчыма прашыцца ў гэтай даўно ўжо зачыненай "камуналцы" нябожчыкаў. Праз кусты прадзіраюся да пазелянелага ад часу бетоннага куба. На ім пацямнелая скульптура прыгожага дзеда з працягнутай рукою над грабянцамі хваляў "Бацькі Нёмана". На пліце -- нотны радок вядомай песні і надпіс: "Кампазітар Сакалоўскі Нестар Фёдаравіч. 1902--1950". Божа мой! Пражыў толькі 48 гадоў. А ў маёй памяці ён так і застаўся маладым, прыгожым, вясёлы, усмешлівы, нястомны спявак і музыка, выдатны меладыст, шчыры, уважлівы і чулы старэйшы таварыш. Памятаю, яго доўга не прымалі ў Саюз кампазітараў без кансерваторскага дыплома. А з яго знаных сучаснікаў часцей за ўсё гучаць і жывуць мелодыі Нестара Сакалоўскага. У выкананні яго хору гарманізаванья ім не забуду "Як сарву я ружы кветку ды пушчу на воду", "Купалінку", "Хадзіў мілы мой ракою, а мілая беражком" і "Слуцкія ткачыхі".

Шчаслівы лёс звёў мяне, юнака, у 1935 годзе з Нестарам Фёдаравічам. Мы з ім у адзін час працавалі ў розных рэдакцыях Беларускага радыёкамітэта. Позняй восенню па ініцыятыве славутага ў той час маскоўскага журналіста Міхаіла Кальцова па радыё праводзіўся Дзень Краіны Саветаў. Кожная рэспубліка расказвала пра свае здабыткі і паказвала свае лепшыя калектывы самадзейнасці. У нас выбар прыпаў на прыгранічны Заслаўскі раён. Рыхтаваць перадачу паслалі Сакалоўскага і мяне. Заслаўе побач. Цягнікі далей не ідуць: граніца. Атрымалі візы, прыехалі, пасяліліся ў стадоле з паточанага шашалем кругляка, з фанернаю шыльдаю "Гасцініца". У раёне параілі калгас "Чырвоны пагранічнік", сапраўды на самай мяжы. Пасялілі нас у самым большым доме з фікусамі і клапатлівымі гаспадарамі.

А восень як на тое ліха задажджыла, і адзіная вузкая вуліца залілася гразкаю калатушаю. Як мы поўзалі ў чаравічках з галёшамі, не ўяўляю. З старшынёй і брыгадзірамі я рыхтаваў іх выступленні, а хор павінен быў арганізаваць Нестар Фёдаравіч. Амаль усе дзяўчаты і маладзіцы ў канцы вёскі ў нізенькай сушні церлі і трапалі лён. Прыйшлі да іх. Усе твары пазавязваны хусткамі, толькі праз шчылінкі з-пад запыленых вейкаў пабліскваюць вочы. Сакалоўскі вырашыў з іх сабраць хор для перадачы на Маскву. Сказаў ім пра гэта, а дзяўчаты ў рогат: "Тут дыхаць няма чым, а вам песні на ўме". Як ні ўгаворваў, як ні жартаваў і падвясельваў, усё дарэмна. А ў вёсцы казалі, што ў сушні -- самыя галасістыя дзяўчаты і кабеты. "От пабачыш, заспяваюць, -- суцяшаў мяне кампазітар. -- Дзе б толькі дастаць гітару ці гармонік". Гітару пазычылі ў мясцовага настаўніка. Якраз у абед прыйшлі ў сушню. Пагаманілі, пажартавалі, Нестар Фёдаравіч крануў струны і заспяваў "А ў полі вярба". "А ў нас спяваюць трохі іначай", -- ссунуўшы хустку, усміхнулася ружовая прыгажуня. "А як?" І заспявала, Сакалоўскі адразу падстроіўся на яе лад, жанкі падхапілі,.. і абед зацягнуўся. Яны церлі, а Нестар Фёдаравіч іграў і спяваў. Дамовіліся ўвечары сабрацца ў сельсавеце на спеўку.

У кожны абед мы прыходзілі ў сушню. Аднойчы старэйшая сказала: "Давайце заспяваем нашу". Каля сушні, над мокраю лугавінаю, пад нізкім шэрым небам, зазвінеў чысты працяжны голас:

**Ой, пад дубам-дубам**
**Чабор расцвітае,**
**А ў новай крыніцы вада**
**Прыбывае.**

Пятнаццаць галасоў падхапіла:

**У новай крыніцы**
**Вада прыбывае,**
**Малада дзяўчына**
**Любага чакае.**

Мелодыя і паэзія зачаравалі нас. І пачалося спаборніцтва песні з песняю. Нестар а[illegible]у падбіраў акампанемент, г[illegible]ы гучалі чыста, вольна, высо[illegible] і меладычна. "Вось амаль і гатовы хор, -- радаваўся Сакалоўскі, -- не прапускайце толькі спевак, і вас пачуе ўвесь Савецкі Саюз". Жанкі смяя[illegible]і не верылі. На спеўках гуча[illegible]-выя песні Заслаўшчыны. Нестар запісваў мелодыі, я -- словы. Потым іх надрукаваў у "ЛіМе". На спеўках мы заседжваліся дапазна.

Аднаго разу позна выйшлі са школы, куды перанеслі спеўкі, і, каб не плюхаць па гразкай вуліцы, падаліся нацянькі ў сваю кватэру. Цемру аплёў яшчэ густы туман. Блыталіся, блыталіся і ўзбіліся на нейкую раллю, а куды ісці, ніяк не разбяромся: адзін цягне туды, другі -- сюды. Нечакана спыніў грозны голас у тумане: "Стой! Ни с места! Кто идёт?" Перад намі вырас конны пагранічнік. Мы азваліся. На заставе нас ведалі. "А-а, это вы. Куда же вас несёт нелёгкая? Через сотню метров граница". І, дзякаваць яму, давёў да самае хаты. А маглі ж стаць "перабежчыкамі", "злачынцамі"!

У кастрычніку з Масквы загучаў той чаканы радыёдзень. У заслаўскім Доме культуры было поўна людзей. Прамоўцы коратка расказвалі пра "здабыткі і заможнае жыццё" прыгранічнага раёна, пра пільнасць і патрыятызм народа. Калі заспяваў вышкалены Сакалоўскі хор, заля замерла. Песню змяняла песня, адна лепшая за другую. Па правадах перадача праз Калодзішчы ішла на Мінск і Маскву. Калі мы вярнуліся дамоў, Сакалоўскага ўсе віншавалі з небывалым поспехам. Казалі, што каля дынамікаў, што віселі на скрыжаваннях вуліц, спыняліся і слухалі канцэрт натоўпы людзей: не верылася, што пяюць вясковыя жанчыны з прыгранічнага раёна.

Калі падвялі вынікі радыёдня, Заслаўскі хор запрасілі на заключны канцэрт у Маскву. Узрушаны і шчаслівы Нестар павёз сваіх спявачак у сталіцу. Пра тэлебачанне тады яшчэ і не марылі, а канцэрт з Вялікага тэатра слухала ўся краіна па трансляцыі, праз лямпавыя і дэтэктарныя прыёмнікі. Выступалі лепшыя калектывы з розных рэспублік. Нашы спявачкі некалькі песень выконвалі на "біс".

Шчаслівыя спявачкі вярнуліся з Масквы. Кожнай падаравалі па патэфону (у той час -- самая дасканалая тэхніка) з наборам пласцінак, адрэзамі на сукенкі і мноствам дробных сувеніраў. Усе прыйшлі на вуліцу Кірава ў Радыёкамітэт, дзякавалі, што "ўламалі" іх на спевы, што пабачылі Маскву, выступалі ў Вялікім тэатры, а на прыёме ў Крамлі ўбачылі самога Сталіна і так разгубіліся, што не ведалі, што, як і чым есці. Афіцыянт пацікавіўся, чаго б яны хацелі. Старэйшая адважылася: "Каб гарачай бульбачкі". Сакалоўскі пераклаў незнаёмае слова, і неўзабаве на іх канцы стала сярод ікры, балыкоў і заліўных задыміла сопкая бульба. Расказвалі і смяяліся самі.

Пасля паездкі на Заслаўшчыну мы сталі з Нестарам Фёдаравічам добрымі сябрамі. Крыху раней я разам з яго прыгожаю і абаяльнаю жонкай Вольгай Ігнатаўнай і малодшым братам Ванем працавалі ў стылрэдакцыі Дзяржаўнага выдавецтва. Апошні раз з Сакалоўскім мы сустрэліся ў Доме друку ў 1947 годзе як даўнія сябры. Ён не адхіснуўся ад мяне "клыймёнага" страшным таўром, абняліся, доўга гаварылі пра абодвума перажытае.

Неўзабаве зноў мяне ў "сталінскім вагоне" "навечна" павезлі ў Сібір. Там я часам па радыё слухаў яго песні і апрацоўкі народных мелодый. Ім запісана і апрацавана больш за 500 народных твораў, напісана музыка да Дзяржаўнага гімна БССР, яго мелодыі гучаць і сёння. Ён жыве ў песні.

Я часта адведваю яго на Даўгабродскіх могілках, успамінаю нашы вандроўкі ў тую незабыўную восень, яго усмешку, жарты, смех і вясёласць, абаяльнасць і шчырасць таленавітага сына нашай Зямлі -- Нестара Фёдаравіча Сакалоўскага.

Вакол помніка з "Бацькам Нёманам" я падоўгу хаджу, хоць добра ведаю: ніколі не знайду маленечкую магілку свайго першага сына. Ён з'явіўся на свет праз тры тыдні пасля майго арышту. О, як гэтае нараджэнне скарыстоўвалі мае следчыя: "Прызнайся, падлішы, скажам, хто ў цябе нарадзіўся. Эх ты, называецца бацька! Прызнаешся, спатканне дадзім, а не, шлёпнем, і знаку не астанецца". Я запярэчыў: як можна шлёпнуць без суда і следства. "Наіўны шчанюк. Шлёпнем і складзем акт: "Убит при попытке к бегству".

А маё першае дзіцятка снілася начамі: тулілася да мяне, я гайдаў і спяваў калыханкі.

Перад заканчэннем следства жонка выплакала пяціхвіліннае спатканне. Што рабілася з ёю і са мною, цяжка нават уявіць: душылі слёзы, нямеў язык. Я прытуліў дзіцятка да сябе і чуў, як стукае яго сэрдайка. Таня сказала, што назвалі Алесем. Пра справы, пра жыццё следчы, як каршун, абрываў кожнае слова. Ён падпісаў пропуск і выставіў іх з пакоя. Больш сына я так і не ўбачы[illegible] з Таняю сустрэліся праз [illegible]доў. Яна расказала, колькі яна выпакутавала: з інстытута выключылі, з пакойчыка на Цнянскай вуліцы выкінулі на вуліцу. Нават радня баялася прытуліць у сябе. Позняй восенн[illegible] ўдваіх начавалі ў сквер[illegible] плошчы Волі, там, дзе потым засудзілі нас. Гаворачы, успамінаючы, мы дайшлі да Вайсковых могілак, прадзіраліся праз кусты і ржавыя балясіны агароджаў. Яна хадзіла ад аднае да другое магілкі, успамінала: "Недзе тут мы яго пахавалі з маці нашай колішняй суседкі Жэні Шэр". Так і не знайшлі сынаву магілу. Усё запляскаў і зраўняў час, і на тым месцы разрослася бэз і з'явіліся новыя магілкі. Кожны раз, бываючы на могілках, я хаджу на тым месцы, у думках клічу сына, якога за мяне дабілі ў двухгадовым пакутніцкім узросце.

**Сяргей ГРАХОЎСКІ.**

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 18— 20.**

## З НОВЫХ ВЕРШАЎ

**Станіслаў ВАЛОДЗЬКА**

### ПАМЯЦІ КАЗІМІРА СВАЯКА

**Вёсачка Барані -- за барамі --**
**Мілая радзімка Сваяка,**
**Дзе ўзяла пачатак свой у ранні**
**Слынная жыцця яго рака.**

**Слухалі тут белыя бярозкі,**
**І пачуў нарэшце белы свет,**
**Як з чароўнай**
**Музай-беларускай**
**Шчыра гаварыў Сваяк-паэт.**

**Моў прыгожых ёсць**
**на свеце многа,**
**Ды найпрыгажэйшая -- свая.**
**Як на беларускай мове Богам**
**Годна размаўляў**
**святар-Сваяк.**

**Колькі гора наш**
**народ пабачыў,**
**Колькі здзекаў люд**
**наш перанёс!**
**І маё часамі сэрца плача*,**
**Што такі у роднай мовы лёс.**

**Толькі ўсё ж я скрусе**
**не скаруся:**
**Ёсць яшчэ на свеце сваякі,**
**Што ўратуюць**
**гонар беларусаў --**
**Жыцьме Беларусь**
**вякоў вякі!..**

* "Пішу, бо сэрца плача" — радок з верша К.Сваяка.

* * *

**Чэрвеня 22-га**
**Ноч заглядае ў вокны,**
**Ноч заглядае у вочы.**
**З воч паглядае трывога,**
**З воч ветэрана сівога,**
**З воч адзінокай матулі:**
**Толькі б мы зноў не пачулі**
**Гулу страшэннага тога**
**Чэрвеня дваццаць другога.**
**Чэрвень, які ўжо мінае,**
**Толькі ўсё напамінае --**
**Сябра яго дарагога,**
**Сына яе залатога...**
**Доўга заснуць не ўдаецца,**
**Доўгаю ноч ім здаецца**
**Чэрвеня 22-га.**

* * *

**З яблынь завіруха --**
**і чаму так! --**
**На мяне магла**
**навеяць смутак.**
**І яшчэ нагнаць мне**
**смутку болей**
**Ясным днём -- мяцеліца**
**з таполяў...**

**А было, што снежная завея**
**Смутак разагнаць магла,**
**развеяць...**





**У Брэсце пасля працяглай рэканструкцыі прыняў гледачоў абласны драматычны тэатр. Гэта прыгожы будынак, дзе цудоўная, сучасная зала, утульныя холы, выдатнае асвятленне сцэны, зручныя акцёрскія грымёрныя, арыгінальны інтэр'ер.**

**Змяніўся і статус тэатра: з драматычнага ён стаў тэатрам драмы і музыкі. У яго складзе будзе з гэтага часу працаваць і сімфанічны аркестр.**

**НА ЗДЫМКАХ: Брэсцкі тэатр пасля рэканструкцыі; у глядзельнай зале.**

**Фота Рамана і Эдуарда КАБЯКОЎ.**

# ТАЛЕРАНТНАСЦЬ ДА ЎСІХ КАНФЕСІЙ

**(Заканчэнне. Пачатак на 6-й стар.).**

Апякункай збору ў 1631 годзе была тая ж Алена Галоўчынская. У канцы 1630-х гадоў збор перайшоў да Аляксандра Слушкі і, напэўна, потым спыніў сваё існаванне.

Збор у Новым Быхаве належаў троцкаму (г.Трокі, зараз Тракай пад Вільняй) ваяводзе Аляксандру Слушку. У 30-я гады XVII стагоддзя ён пакінуў кальвінскую веру і вярнуўся ў каталіцтва. Тады, верагодна, перастаў існаваць і збор.

У Шклове кальвінскі збор, які заснавалі Хадкевічы, спыніў дзейнасць у 1619 годзе, калі троцкі ваявода Аляксандр Хадкевіч перадаў яго каталіцкаму ордэну дамініканаў.

Далейшая гісторыя гэтай рэлігійнай плыні азмрочана наступам контррэфармацыі, якая здолела зачыніць большасць рэфармацкіх храмаў. Частка кальвіністаў перайшла ў арыянства (рэлігійная плынь, што ўзнікла ў IY стагоддзі н.э. у Егіпце), іншыя -- у каталіцтва.

Але кальвіністыя абшчыны, бясспрэчна, працягвалі існаванне. З іх колаў выйшла нямала вядомых асоб тых часоў. Сярод апошніх варта адзначыць першага беларускага і магілёўскага каталіцкага архібіскупа Станіслава Богуша-Сестранцэвіча (1731--1826), які паходзіў з сям'і кальвіністаў.

Заўважым, што праваслаўны магілёўскі архіепіскап Георгій Каніскі (1717--1798), які з 1745 года займаў сваю катэдру, падтрымліваў добрыя, нават сяброўскія адносіны з евангелістамі. Менавіта ён падараваў ім у Магілёве кавалак зямлі, а таксама тое, што засталося пасля разборкі драўляных архірэйскага дома і царквы Спаса. З гэтага матэрыялу яны пабудавалі на былой Зенкавецкай вуліцы (цяпер завулак Мігая) кірху. Пазней Зенкавецкая стала называцца Лютэранскай. Прынамсі, на пачатку XX стагоддзя 1 квадратны сажань зямлі тут каштаваў 20 рублёў.

Да пабудовы кірхі дачынілася расійская імператрыца Кацярына II. У 1780 годзе падчас знаходжання ў Магілёве яна ахвяравала 500 рублёў на кірху лютэранскага веравызнання і школу пры ёй. На Віленскай вуліцы (сучасная Лазарэнкі) за брамай (каля сучаснай лазні) знаходзіліся лютэранскія могілкі.

Адным з кіраўнікоў евангельскай грамады ў Вільні быў вядомы архітэктар Ян Крыштап Глаўбіц (1700--1767), аўтар магілёўскіх Спаскай царквы і архірэйскага палаца (вал Чырвонай зоркі, 3), многіх уніяцкіх храмаў у так званым стылі беларускага барока (Беразвечча, Глыбокае, Полацкая Сафія і інш.). Падчас праектавання і будаўніцтва ў Магілёве ён цесна кантактаваў з Г.Каніскім, палац якога цудам захаваўся да нашых дзён.

На пачатку XX стагоддзя вышэйзгаданая кірха ўяўляла драўляны будынак з двухсхільным дахам, чатырохкалонным порцікам і невялікай вежачкай па цэнтры. На калонах прыгожа віўся плюшч ці вінаград, што ствырала ўражанне асаблівай утульнасці. Гэты просты (у стылі класіцызму), але цікавы будынак, дарма што драўляны, несумненна быў упрыгажэннем горада, бо наўрад ці яго фотаздымак патрапіў бы на паштовыя карткі пачатку XX стагоддзя, калі б гэта было не так.

Кірху ўпрыгожвалі два партрэты. На адным з іх быў намаляваны пачынальнік лютэранства Марцін Лютэр, на другім -- ахвяравальнік ці нават фундатар гэтага храма, вядо[illegible] магілёўскі і беларускі мец[illegible] асветнік, праваслаўны біск[illegible] Георгій Каніскі. Даны факт сведчыць пра пранікненне мясцовых традыцый, якія характэрныя для праваслаўных, уніятаў і асабліва католікаў, у лютэранства. Партрэты, барэльефы, бюсты і іншыя выявы фундатараў і ахвяравальнікаў, а таксама іхнія гербы, як правіла, аздаблялі інтэр'ер і экстэр'ер беларускіх храмаў.

Яшчэ адным комплексам пратэстанцкіх помнікаў з'яўляюцца могілкі. Яны знаходзіліся побач з праваслаўнымі ўваскрасенскімі і, магчыма, зліліся з апошнімі. Гэты некропаль, як і іншыя, таксама патрабуе грунтоўных даследаванняў.

Колькасць хрысціян-пратэстантаў розных кірункаў у Магілёўскай губерні ў XIX стагоддзі даходзіла да 10 працэнтаў ад колькасці ўсіх жыхароў. У самім Магілёве ў 1880 годзе жыло ўсяго 173 пратэстанты, але ў наваколлі было шмат латышоў, якія наведвалі лютэранскую кірху, а таксама мясцовыя немцы, якія жылі пераважна ў губернскім цэнтры.

У другой палове XIX стагоддзя з Украіны на Магілёўшчыну прыходзяць першыя баптысты, ці як іх называюць у справаздачы магілёўскага губернатара за 1870 год, "штундысты" (гэта значыць сектанты). "Магілёўскія губернскія ведамасці" паведамляюць, што ўжо ў 1892 годзе ў губерні налічвалася 146 "штундыстов" абодвух полаў, а ў 1906 годзе -- каля 500 вернікаў. Як бачым, колькасць іх вырасла больш як у тры з паловай разы. Варта азначыць, што сектанты складалі ў другой палове XIX стагоддзя большую частку вернікаў сярод насельніцтва Магілёўшчыны.

Бясспрэчна тое, што вернікі-пратэстанты пакінулі прыкметны след у нашай гісторыі, аднак для ўсебаковага асвятлення гэтага пытання неабходны асобныя даследаванні.

**Зміцер ЯЦКЕВІЧ.**







**Вясне, сонцу радуюцца людзі і прырода.**
**Фота Л. НАЗАРАВАЙ.**

## *СПОРТ*

### НА АДКРЫТАЙ ВАДЗЕ

Плыўцы адкрылі летні сезон. У славенскай Любляне на міжнародным турніры "Ілірыя-95" прадстаўнікі 15 краін Еўропы вялі барацьбу за галоўныя прызы. Спаборніцтвы праходзілі на адкрытай вадзе.

Не засталіся без узнагарод плыўцы Беларусі. Рэкардсмен краіны Алег Рухлевіч выйграў заплыў на дыстанцыі 100 метраў вольным стылем: 53,64 секунды. Гэты вынік -- рэкорд спаборніцтваў. Ён жа заняў трэцяе месца на такой жа дыстанцыі ў заплыве батэрфляем.

Алімпійская чэмпіёнка Алена Рудкоўская не мела сабе роўных на дыстанцыі 100 метраў (брас) і заняла другое месца на двухстах метрах.

Яшчэ адна ўзнагарода дасталася Алене Мінцок. Яна фінішавала другой на дыстанцыі 200 метраў (вольны стыль).

### СКАНДАЛ

29 мая ў Галандыі стартуюць матчы прэтэндэнтаў на сусветную шашачную карону. Ад Рэспублікі Беларусь тут будуць удзельнічаць міжнародныя гросмайстры мінчане Анатоль Гантварг і Аляксандр Балякін. Рыхтавацца да адказных спаборніцтваў яны пачалі даўно, ведаючы, што іх сапернікамі будуць адпаведна нідэрландзец Роб Клерк і сенегалец Басір Ба.

І раптам прыходзіць паведамленне, што Міжнародная федэрацыя шашак правяла... новую жараб'ёўку. Цяпер ужо Анатоль Гантварг павінен будзе сустракацца з двухразовым чэмпіёнам свету галандцам Тоні Сейбрандсам, а Аляксандр Балякін -- з шасціразовым чэмпіёнам планеты Хармам Вірсмай. Пратэсты нашых спартсменаў і федэрацыі не далі ніякага выніку. Адказ быў: "Не жадаеце гуляць -- не гуляйце зусім".

Хто вінаваты ў такім беспрэцэдэнтным рашэнні Міжнароднай федэрацыі шашак? Падрабязнасці нам невядомы. Але не абышлося тут без галандскіх спонсараў, якія выклалі вялікія грошы на падбор выгадных для іх пар прэтэндэнтаў. Тады дзе ж спартыўныя прынцыпы, справядлівасць? Аб гэтым Міжнародная федэрацыя шашак лічыць лепшым маўчаць. Тым не менш нашы гросмайстры ад матчаў прэтэндэнтаў адмаўляцца не маюць намеру.

### ПРЫЕМНЫЯ ФАКТЫ

Двое беларускіх арбітраў запрошаны для абслугоўвання матчаў розыгрышу Кубка УЕФА-Інтэртота. Сяргей Шмолік з Брэста правядзе сустрэчу футбольных каманд Літвы і Германіі-3, а мінчанін Генадзь Якубоўскі будзе судзіць гульню Турцыя-1 -- Мальта.

### АДЗІН МЕДАЛЬ НА ЎСІХ

Беларускім тэнісістам пакуль цяжка разлічваць на ўдалае выступленне на чэмпіянаце свету.

І таму, відаць, нарадзілася прыемная сенсацыя. На апошнім першынстве планеты мінчанін Уладзімір Самсонаў у пары з харватам Зоранам Прымарцам заваяваў "серабро", уступіўшы кітайскаму дуэту з лікам 1:3.

Застаецца нагадаць, што кітайскія тэнісісты перамаглі ва ўсіх сямі разрадах.

### ДЗЕ Ж ЧЭМПІЁНЫ!

Зачакаліся беларускія аматары барацьбы чэмпіёнскіх тытулаў ад нашых спартсменаў на першынствах свету і Еўропы. І вось нядаўна з бронзавымі медалямі вярнуліся з першынстваў кантынента дзюдаіст Націк Багіраў і "вольнік" Сяргей Смаль.

А былі ж часы, калі мы мелі ўладальнікаў "золата" і на Алімпійскіх гульнях, і на чэмпіянатах свету, Еўропы, былога СССР.

**Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**

**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").**



**НАШ АДРАС:**

**220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**



**Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77). Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 1591. Падпісана да друку 22. 5. 1995 г.**